ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР.

№ 70 (1604) | Аўторак, 5 верасня 1961 года. | Цана 4 кап.



ВЕРАСЕНЬ. Фотаэцюд С. ЧЫРЭШКІНА.

# НЕ БЫВАЦЬ ВАЙНЕ-ПАЖАРУ!

★ ★ ★ ★

## МУДРАСЦЬ І СІЛА НАРОДА

У нашых думах і сэрцах жыве кожнае слова велічнай Праграмы чалавечага шчасця. Яе радкі ўразаюцца ў нашу памяць, як самая высокая паэзія заўтрашняга дня. Дзе ні ідзеш, што ні робіш, заўсёды чуеш упэўнены і ўрачысты голас партыі: **«Цяперашняе пакаленне савецкіх людзей будзе жыць пры камунізме!»** А голас партыі — гэта голас нашага сумлення, голас лепшых спадзяванняў народа, які стварыў першую ў свеце сацыялістычную дзяржаву, праклаў першую дарогу ў космас і першы ў свеце будуе камунізм.

Кожны з нас хоча ўявіць, якою будзе наша зямля праз дваццаць гадоў, кожны радуецца новаму дню, што набліжае нас да самай запаветнай мэты.

Мы думаем аб спакоі і шчасці, аб росквіце ўсіх чалавечых талентаў і магчымасцей, аб самым шчырым братэрстве ўсіх народаў. Багатаю, шчодраю і прыгожаю тады стане зямля! Дужым і шчаслівым будзе на ёй чалавек!

І дзіву даешся, што не ўсе гэта разумеюць, не хочуць ці баяцца зразумець. Усё мацней і мацней грукаюць на Захадзе жалезныя падковы салдацкіх ботаў. Зноў шавеляцца павучыныя кіпцюры чорнай свастыкі. Аматары вайны прагнуць крыві і людскіх пакутаў.

Яны бразгаюць зброяй, і не якімі-небудзь коп'ямі і лукамі, а вадароднымі і атамнымі бомбамі.

Няўжо ім і іх гаспадарам не сняцца ахвяры Хірасімы, няўжо ў іх сэрцы не стукае попел дзяцей мірнага японскага горада? Няўжо яны забыліся, што запісаў над Хірасімай у бартавым журнале самалёта «Б-29» «Энола Гэй» штурман капітан Люіс: «6 жніўня 1945 года 8 гадзін 15 хвілін... Я шукаю слоў і не знаходжу іх... Божа! Што мы зрабілі?!»

Савецкі Саюз хоча падпісаць мірны дагавор з Германіяй, пакончыць з рэшткамі другой сусветнай вайны, назаўсёды замацаваць мір на зямлі, а ў адказ на гэта нам пагражаюць вайною, узбройваюць бундэсвер, пырскаюць атрутай чалавеканенавісніцкай прапаганды.

Заакіянскія заправілы і недабітыя генералы НАТО шукаюць любую прычыну, каб паказаць свой ваяўнічы дух, каб напалохаць чалавецтва новай вайною, каб увесь час трымаць нервы людзей у напружанні. Такой прычынай яны зрабілі так званую берлінскую праблему.

Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў, адказваючы на пытанне амерыканскага журналіста Д. Пірсана, ясна і зразумела сказаў: «Давайце падпішам мірны дагавор, давайце ўстановім для Заходняга Берліна статус вольнага горада, давайце дадзім яму ўсе неабходныя гарантыі». Савецкі ўрад даўно заяўляе, «што заўсёды гатовы сесці за круглы стол для мірных перагавораў».





Але заходнія дзяржавы са Злучанымі Штатамі Амерыкі на чале баяцца разумнай, пераканальнай і простай логікі нашых довадаў і прапаноў.

Вырашаць сілаю спрэчкі хоча толькі несправядлівы і неразумны. У сваім запале ён забываецца, што ў яго працаўніка ёсць не меншая сіла і яшчэ ёсць сіла праўды.

Калі на цябе замахваецца вораг, ты павінен сціснуць рукі ў кулакі. І мы іх сціснулі.

Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі і Савецкі ўрад прызналі неабходным часова затрымаць у складзе Узброеных Сіл СССР тых, хто выслужыў устаноўленыя законам тэрміны ваеннай службы. Салдаты, матросы, сяржанты і старшыны, якіх чакаюць камбайны на палях нашай неабсяжнай краіны, якіх клічуць рыштаванні новых гарадоў, цэхі заводаў, сёння вымушаны не выпускаць са сваіх умелых і цвёрдых рук грозную зброю на рубяжах нашай Радзімы. Яны пільна ўглядаюцца ў яснае неба нашай Айчыны з адзінай думкай, з адзіным клопатам, каб яно заўсёды было чыстае, каб спакойна спалі іх дзеці, каб усміхаліся маці, чытаючы іх пісьмы.

На ўвесь свет «Савецкі ўрад урачыста заяўляе, што Узброеныя Сілы СССР ніколі першымі не ўжывуць зброі». Гэта гаворыць міралюбівы працавіты савецкі народ. Мы любім жыццё, сонца, зорнае неба, сваю багатую шчодрую зямлю. У нас столькі работы, столькі клопатаў пра шчаслівы заўтрашні дзень! Мы дбаем пра будучае нашых дзяцей. Яны нараджаюцца і растуць, сагрэтыя нашаю ласкаю і любоўю. Яны заўсёды ідуць ў першы асенні дзень у свае школы з букетамі кветак, іх праводзяць у гэтую вялікую дарогу дужа занятыя мірнаю працай бацькі. А на іх светлыя галоўкі састарэлыя вар'яты замахваюцца тупарылымі бомбамі.

— Не дазволім! Не дапусцім! — гаворыць кожны савецкі чалавек.

У навальніцу маці прыкрывае дзяцей сваімі грудзьмі, яна становіцца пільнаю, як толькі ўбачыць на небасхіле навальнічную хмару. Наша маці — Камуністычная партыя заўсёды аберагае сваіх дзяцей. Яна заўсёды гаворыць з намі адкрыта і проста, яна заклікае нас быць спакойнымі, упэўненымі і пільнымі, быць заўсёды на варце нашага шчасця.

Мы пільныя, бо нам дарагая кожная сцяблінка на нашай зямлі. Мы спакойныя, бо з намі праўда і мужнасць, розум і сіла, сумленне і адзінства з усімі прагрэсіўнымі людзьмі планеты. Мы шчаслівыя, бо будуем камунізм, аб якім марылі лепшыя людзі ўсіх часоў і народаў.

XXII з'езд Камуністычнай партыі Савецкага Саюза абмяркуе і зацвердзіць Праграму пабудовы камунізма ў краіне Саветаў. Нашы сэрцы сёння галасуюць за яе, мы жывём і працуем па гэтай велічнай Праграме, заўсёды памятаючы, што ў ёй запісана: **«Знішчыць войны, замацаваць вечны мір на зямлі — гістарычная місія камунізма».** Мы гэтую місію выконваем і выканаем. Мы зробім усё, каб красавала і дужэла савецкая зямля, каб нашы дзеці спалі спакойна, каб яны вясною саджалі кветкі, а ўвосень збіралі адборнае насенне для заўтрашніх садоў.

Дык будзем пільнымі, спакойнымі і дужымі! Будзем яшчэ больш, яшчэ лепш працаваць, яшчэ ўважлівей прыслухоўвацца да кожнага слова нашай партыі: у ім ісціна, мудрасць і сіла народа.

**Сяргей ГРАХОЎСКІ.**

## СВЯТЛО ЖЫЦЦЯ ПЕРАМОЖА

Над народамі навісла страшэнная небяспека трэцяй сусветнай вайны. Вылюдкі з Пентагона вышукваюць новыя сродкі знішчэння людзей і дамагаюцца стварэння «нейтроннай» бомбы.

Наш Савецкі ўрад робіць усё для таго, каб справа міру і дружбы народаў перамагла ва ўсім свеце.

Заявы Савецкага ўрада па пытаннях міжнародных адносін, апублікаваныя ў гэтыя дні, — дакументы выключнага гуманізму, грознае папярэджанне ваяўнічым рэваншыстам і іх заакіянскім гаспадарам.

Мы, савецкія людзі, горача падтрымліваем усе мерапрыемствы Савецкага ўрада па ўмацаванню абараназдольнасці сацыялістычнай краіны. Калі ашалелыя імперыялісты паспрабуюць парушыць мір на зямлі, яны будуць знішчаны.

Верым, што святло жыцця пераможа чорныя цені смерці, якую нясуць чалавецтву яго ворагі — імперыялісты.

**В. ГЛУШАКОЎ,**
заслужаны артыст БССР.

## З АГНЁМ НЕ ЖАРТУЮЦЬ

Савецкі народ заняты мірнай працай. Мы будуем новыя гарады, заводы-гіганты з магутнай сучаснай тэхнікай, вырошчваем на неабсяжных цалінных прасторах багатыя ўраджаі.

Усё гэта стаіць упоперак горла рэакцыйным заправілам на Захадзе, і яны распальваюць ваенны псіхоз.

Складанае міжнароднае становішча ў свеце, ваенная падрыхтоўка імперыялістаў ЗША і іх саюзнікаў па агрэсіўных блоках прымусілі Савецкі ўрад у мэтах бяспекі нашай Радзімы часова спыніць звальненне ў запас воінаў, якія адслужылі свой тэрмін службы ў арміі, а таксама аднавіць эксперыментальныя ядзерныя выбухі. Такі адказ на падпальніцкую дзейнасць імперыялістычных колаў савецкія людзі цалкам ухваляюць і падтрымліваюць.

Патрэбна ўсяляк умацоўваць абараназдольнасць нашай сацыялістычнай дзяржавы, памнажаць яе матэрыяльныя і духоўныя багацці і быць заўсёды напагатове, каб у любую хвіліну нанесці знішчальны ўдар па імперыялістычных разбойніках і недабітых фашысцкіх малойчыках, калі яны захочуць напасці на нашу родную зямлю.

Мір! Гэтае слова дарагое кожнаму сумленнаму чалавеку на нашай планеце. Трэба патроіць намаганні ў барацьбе за мір і не даць разгарэцца ваеннаму пажару. Мерапрыемствы Савецкага ўрада павінны прывесці да розуму тых, хто імкнецца распаліць агонь вайны.

**Ю. СЕМЯНЯКА,**
кампазітар.

# З ВЫСОКАЙ ТРЫБУНЫ

**Ул. НЯФЁД,**
кандыдат мастацтвазнаўчых навук.

Гастролі абласных тэатраў рэспублікі ў Мінску закончыліся спектаклямі Гродзенскага і Гомельскага драматычных калектываў.

У гэтых спектаклях—шмат цікавага, сапраўды творчага. І разам з тым многае выклікае пярэчанне або жаданне паспрачацца. Ясна адно — мы маем справу з сапраўды творчымі калектывамі, якія шмат працуюць, шукаюць, а ў такіх выпадках у рабоце бываюць не толькі здабыткі, але і недахопы.

Спектаклі абодвух тэатраў выклікаюць роздум пра рэпертуар, сілу яго выхаваўчага ўздзеяння на гледача, адзінства стылю і пачуццё жанра, пра ансамбль і мастацкае пачуццё меры, народнасць і вонкавую выразнасць спектакля і інш. Усё гэта пытанні, ад паспяховага вырашэння якіх залежыць лёс спектакля і адносіны гледача да тэатра.

## ПЕРШАЯ ЎМОВА

Глядач заўсёды ўдзячны рэжысёрам і акцёрам, калі на спектаклях ён хвалюецца, перажывае, радуецца, смяецца. І заўсёды бывае засмучаны, калі спектакль яго не крануў.

Першая ўмова поспеху спектакля — добрая і надзённая п'еса, здольная ўсхваляваць гледача, зацікавіць яго.

Рэпертуар Гродзенскага і Гомельскага тэатраў, паказаны ў Мінску, дазваляе зрабіць вывад, што абодва калектывы даволі сур'ёзна ставяцца да выбару п'ес. Тэатры правільна разумеюць задачы выхавання ў нашага гледача рыс і якасцей чалавека новага часу. Асноўнае месца ў іх рэпертуары займаюць п'есы на сучасныя тэмы.

Гродзенскі тэатр адкрыў свае гастролі пастаноўкай п'есы В. Шаўрына «Салдаты», якая расказвае пра жыццё і лёс савецкіх людзей. Нягледзячы на істотныя недахопы (кампазіцыйная раскіданасць, расцягненасць), п'еса выклікала цікавасць гледача. Праблемам фармавання новага чалавека ў барацьбе супраць перажыткаў мінулага, супраць мяшчанства і прыстасавальніцтва прысвечаны п'есы «Дзеля сваіх бліжніх» В. Лаўрэнцьева, «Чужы дом» М. Заруднага, «Юнацтва маё» А. Школьніка, «У сябе ў палоне» М. Смірновай і М. Крайндэля, пастаўленыя Гродзенскім тэатрам. Гэтыя п'есы не аднолькавыя па сваіх ідэйна-мастацкіх вартасцях. Але ў кожнай з іх аўтарамі робіцца спроба адгукнуцца на хвалюючыя пытанні нашага жыцця і нечаму навучыць гледача, штосьці яму падказаць. У большай ступені гэта ўдаецца В. Лаўрэнцьеву і М. Заруднаму. Яны з запалам і гневам выкрываюць тых, хто топча законы савецкай маралі, заснаваныя на пачуцці калектывізму, таварыскай узаемадапамозе і строгай патрабавальнасці адзін да аднаго ў працы і асабістым жыцці.

Мы добра разумеем прычыны, па якіх калектыў Гомельскага тэатра ўзяўся за пастаноўку п'есы М. Пагодзіна «Кветкі жывыя». Гэта першая п'еса, у якой зроблена спроба расказаць пра выдатную з'яву нашага часу — нараджэнне брыгад камуністычнай працы. На жаль, драматург далёка не вырашыў пастаўленай задачы. П'еса ў многім надуманая, штучная. Некаторыя вобразы і сітуацыі яе нагадваюць не столькі нашы дні і новых людзей, колькі нешта даўно знаёмае з часоў дваццатых гадоў. Асноўныя намаганні тэатра былі накіраваны на пошукі шляхоў найбольш праўдзівага ўвасаблення драматычнага твора. Пакуль што гэта не прынесла жаданых вынікаў.

Нашы абласныя тэатры вельмі рэдка звяртаюцца да твораў беларускіх драматургаў. Таму мы былі ўзрадаваны, калі ўбачылі ў Гомельскім тэатры п'есу А. Макаёнка «Лявоніха на арбіце». Спектакль, нягледзячы на некаторыя недахопы (часам істотныя), займае сталае месца ў рэпертуары тэатра. Гэта — удалы выбар. Трэба дамагацца таго, каб работа над беларускай драматургіяй у абласных тэатрах з эпізадычнай ператварылася ў сістэматычную.

Наўрад ці варта было Гомельскаму тэатру траціць сілы на пастаноўку сентыментальнай меладрамы А. Арбузава «Страчаны сын». У гэтай п'есе майстэрства буйнага мастака нібы пацямнела. Цэнтральныя яе вобразы — Пётр і Антон выглядаюць не столькі жывымі людзьмі, колькі схемамі, якія выказваюць пэўныя тэзісы драматурга. Падзеі п'есы пазбаўлены жывой, арганічнай сувязі з рэчаіснасцю, уяўляюцца штучнымі. «Страчаны сын» можа служыць яркім прыкладам таго, як няправільны ход думкі мастака перашкаджае выявіць уласцівае яму майстэрства.

Не зусім удалы і выбар п'есы бр. Тур «Пасля разлукі». Напісаная з веданнем сцэны, з улікам рэагавання гледачоў, п'еса пазбаўлена жыццёвай праўды. Сутычкі савецкіх людзей з капіталістычнай рэчаіснасцю (у п'есе расказваецца пра паездку прадстаўнікоў савецкай інтэлігенцыі ў Францыю) паказаны схематычна, прымітыўна, просталінейна.

Вясёлая камедыя «Чацвёра пад адным дахам» М. Смірновай і М. Крайндэль, якая ўзнімае пытанні дружбы людзей у нашым штодзённым жыцці, сустрэла заслужаны цёплы прыём у гледачоў.

Мы ўбачылі таксама спектаклі «Без віны вінаватыя», «Тапаз», «Тры таварышы» (Гродзенскі тэатр); «Зімовая казка», «Угрум-рака» і «Востраў Афрадзіты» (Гомельскі тэатр) Гэтыя назвы сведчаць пра тое, што тэатры жыва цікавяцца рускай і зарубежнай класічнай спадчынай і п'есамі сучасных драматургаў Захаду. Аднак тэатры, якія працуюць у нашай рэспубліцы на рускай мове, павінны аддаваць больш увагі рускаму класічнаму рэпертуару. Мяркуючы па некаторых спектаклях, сцэнічнае ўвасабленне рускай класікі ў абласных тэатрах яшчэ недасканалае.

Трэба папракнуць Гродзенскі тэатр, што ў яго рэпертуары адсутнічаюць п'есы беларускіх драматургаў. Спасылкі на абмежаванасць выбару арыгінальных п'ес наўрад ці могуць быць пераканальнымі. Рэжысёр І. Папоў інсцэніраваў і паставіў раман Э. Рэмарка «Тры таварышы». А хіба нельга было зрабіць тое ж самае на аснове аднаго з многіх добрых празаічных твораў беларускіх аўтараў? Думаецца, што можна і патрэбна. Рускія тэатры, якія працуюць у Беларусі, павінны больш цесна звязваць сваю творчую практыку з жыццём беларускага народа.

## ТЭАТР ВЫХОЎВАЕ

Дзеячы савецкага тэатра ніколі не павінны забываць аб тым, што наша мастацтва — мастацтва сацыялістычнага рэалізму — стаіць на пазіцыях палымянай абароны і развіцця рэвалюцыйных заваёў народа і рашучага адмаўлення ўсяго старога, пазбаўленага перспектыў на будучае. Гэтая палымянасць у сцвярджэнні і адмаўленні мае вялікае значэнне для выхаваўчага ўздзеяння на гледача. Пэўнасць пазіцыі — неад'емная якасць савецкага мастака. У пераважнай большасці выпадкаў гэтая якасць існуе ў работах рэжысёраў і акцёраў. Але часам яна падмяняецца так званай «аб'ектыўнасцю», якая дазваляе тлумачыць з'явы ці вобразы па-рознаму. У такім выпадку сіла ўздзеяння спектакля або вобраза на гледача прыкметна слабее. Возьмем, напрыклад, спектакль «Тапаз» па п'есе Паньоля. Тут расказваецца пра аднаго простага настаўніка, які шмат год свайго жыцця фанатычна прапаведваў сумленнасць на службе і ў штодзённым жыцці, а потым, пад уплывам асяроддзя, стаў на шлях бессаромнага ашуканства дзеля нажывы. Тапазу ў п'есе проціпастаўлены вобраз яго таварыша Таміза — сапраўды сумленнага і прыстойнага чалавека. Напісаная буржуазным драматургам, п'еса, магчыма, не ўсюды выразна сцвярджае ідэю асуджэння Тапаза і грамадства, якое разбэсціла яго. Але ў тым і была задача рэжысёра І. Папова і выканаўцы гэтай ролі акцёра Г. Корна, каб з большай сілай выкрыць і асудзіць пазіцыю Тапаза, які прыйшоў да вываду, што бессаромная нажыва лепш, чым сумленнасць. А інакш п'есу і ставіць не варта.

Аднак Тапаз пададзены ў спектаклі такім спрытным героем-дзялком, што нават выклікае сімпатыю. А яго былы таварыш Таміз, які застаецца на сваіх ранейшых пазіцыях сапраўднай сумленнасці, амаль высмеяны. Ці правамерна такое вырашэнне? Думаецца, што не. І не варта сябе супакойваць тым, што, маўляў, наш глядач эстэтычна культурны і таму беспамылкова разбярэцца ў тым, на бок якога героя яму стаць. Мы таксама не сумняваемся, што глядач не стане на бок Тапаза. Але гэтага мала. Тэатр павінен усімі даступнымі яму сродкамі максімальна ўзмацніць уплыў на гледача з тым, каб ён не толькі розумам адмаўляў тапазаў і асяроддзе, якое нарадзіла іх, але і ўсім сэрцам, усёй сваёй сутнасцю. Іменна такой павінна быць сіла ўздзеяння спектакля на гледача.

Бывае так. Рэжысёр і акцёры, ставячы тую ці іншую п'есу, захапляюцца падзеямі, сітуацыямі, вобразамі, найбольш даходлівымі да гледача. У той жа час выпускаюцца з-пад увагі важныя, хоць і не такія яркія тэмы або падтэмы п'есы, а ў выніку парушаецца адзінства ўсіх частак спектакля і яго сіла ўздзеяння на гледача. Прыкладна гэтак адбылося са спектаклем «Угрум-рака» ў Гомельскім тэатры.

У інсцэніроўцы рамана «Угрум-рака» можна прасачыць тры асноўныя тэматычныя лініі, якія суіснуюць і ўзаемадзейнічаюць, цесна звязаны паміж сабой. Гэта — капіталістычная хцівасць, любоўныя перыпетыі і сацыяльная барацьба рабочага класа.

Калі зняць адну з гэтых ліній, знікне цэласнасць твора, парушыцца яго раўнавага. У спектаклі, пастаўленым рэжысёрам Л. Эльстанам, ёсць усе гэтыя тры лініі. Але раскрыты яны далёка не раўнацэнна. І гэта ўплывае на якасць спектакля. Найбольш моцна і пераканальна раскрыта тэма кахання. Мы маем на ўвазе ўзаемаадносіны Пятра Громава (М. Цурбакоў), Прохара (Н. Маруфаў) і Анфісы (І. Часнакова). Крыху слабейшая тэма хцівасці. І зусім слаба, схематычна паказана барацьба рабочых супраць эксплуатацыі. Усе сцэны, у якіх дзейнічаюць рабочыя, вырашаны эскізна, вобразы рабочых не індывідуалізаваны. Бясспрэчна, гэтыя месцы і ў інсцэніроўцы зроблены невыразна, але і тэатр паставіўся да іх несур'ёзна, не выкарыстаў нават тых магчымасцей, якія былі ў драматычным творы. У выніку тэма нарастання сацыяльнай барацьбы, па сутнасці, знікла, а гэта значыць, што выхаваўчае ўздзеянне спектакля зніжана.

Вялікае значэнне для мастацкага ўздзеяння таго або іншага вобраза мае выразнасць, яснасць і дакладнасць яго ўвасаблення. У спектаклях Гродзенскага і Гомельскага тэатраў, побач з многімі яркімі і мастацкі паўнацэннымі вобразамі, мы ўбачылі і такія, якім якраз не хапае гэтых якасцей.

Напрыклад — вобраз Родзіна ў спектаклі «Кветкі жывыя». (В. Умёнушкін). Спектакль закончыўся, а многае ў гэтым вобразе для нас так і засталося загадкавым. Хто ён такі? Чаму моладзь

(Працяг на 2-й стар.)

## БУДНІ АДНАГО РАЁНА



Возера Чарэйскае.

Ёсць на беларускай зямлі нямала прыгожых, знатных мясцін, праслаўленых у вершах і казках, легендах і песнях. Азёры Браслаўшчыны і Мядзельшчыны, Дняпро і Нёман, Свіцязь і Нарач, Палік і Бяроза-рака. Хто не чуў пра іх, хто іх не ведае?

Пра Чашніцкі раён, пра яго вёскі, рэкі і шматлікія азёры няма ні песень, ні казак. Гэта самы радавы, самы звычайны раён з ліку тысяч радавых, звычайных раёнаў нашай краіны. Няма тут ні нафтавых вышак, ні вогненных доменных печаў, ні цёмных ад вугальнага пылу капроў, ні магутных заводаў.

Нічога, што з першага позірку магло б узрушыць чалавека сваёй веліччу. І, тым не менш, ёсць тут, як і ў кожным куточку роднай савецкай зямлі, такое, аб чым варта гаварыць, пісаць, спяваць.

Зірніце на наш першы малюнак. Гэта — Чарэйскае возера. Хіба яго прыгажосць не варта добрай, узнёслай песні. З далёкага Сярэдне-рускага ўзвышша прышыбавалі сюды, да Чарэйскага возера, ланцугі высокіх глiністых узгоркаў, падступілі да вады стромкімі, абрывістымі берагамі. І шумяць на тых берагах вясёлыя родныя бярозы і вербы.

Прыгожае возера Чарэйскае. А Раманоўскае? Той, хто хоць раз наведаў яго, шырокае, амаль заўсёды спакойнае, надзейна агароджанае ад усіх вятроў сцяной векавых ялін і сосен, ніколі не забудзе сюды дарогі, вернецца зноў, каб яшчэ і яшчэ раз пачуць крыштальны звон празрыстых хваль, задуменныя песні старога бору.

Возера Лукамскае з яго белакрылымі рыбацкімі пруснікамі, возера Жэранскае з яго зялёнымі астравамі, Зялёськаўская пушча з ласямі і мядзведзямі, ціхаплынная Ульянка... ды хіба пералічыш усе мясціны!..

Але самае прыгожае тут — людзі.

...У Чарэі, у вёсках Гара і Замачак, Слабодка і Раманоўшчына добра памятаюць камуніста Андрэя Млявага. Гэта ён у 1919 годзе арганізаваў першую ў раёне партыйную ячэйку і першую ў нашай краіне сялянскую насценную газету. Гэта ён і яго газета вялі барацьбу з кулакамі, цярпліва растлумачвалі значэнне тых падзей, што адбываліся на роднай зямлі, клікалі сялян будаваць новае жыццё. Камуністы, якімі кіраваў Млявы, стварылі саўгас — першую на чашніцкай зямлі калектыўную гаспадарку, якая потым адыграла велізарную ролю ў калектывізацыі раёна.

Кулакі па-бандыцку, з-за вугла, забілі Андрэя Млявага. Але таго, што паспеў ён пасеяць, знішчыць не змаглі. Праз які год пасля смерці Андрэя партыйная ячэйка вырасла ў некалькі разоў. Была створана камсамольская арганізацыя, якую ўзначаліў верны памочнік Млявага, рэдактар насценнай газеты Пятро Анучын.

А ўспомнім грозныя дні Вялікай Айчыннай вайны! Кожны, хто мог трымаць у руках зброю, паўстаў на абарону шчасця, здабытага калектыўнай працай. І ў чорныя дні акупацыі працоўныя раёна засталіся гаспадарамі сваёй зямлі. Тут былі дзесяткі вёсак, куды на працягу ўсёй вайны не адважылася ступіць нага фашыста. А з 1943 года партызаны кантралявалі дзве трэці тэрыторыі раёна! Гераічнай старонкай увайшлі ў гісторыю барацьбы беларускага народа супраць фашысцкага нашэсця атакі партызанскіх атрадаў Асадчага, Лявонава і Дубава, баі за Чарэю і Гару, Белую Царкву і Чашнікі. Нямала гітлераўскіх галаварэзаў пашматалі снарады юнага партызанскага артылерыста, раманоўскага хлопца Лаўрэна Парахонькі. Не адну фашысцкую каску прадзіравіў аўтамат разведчыка Міхася Скакуна, снайперская вінтоўка Героя Савецкага Саюза Каваленкі!

...Многа мужных людзей Чашніччыны спачывае ў брацкіх магілах... Насельніцтва раёна свята беражэ памяць аб тых, хто загінуў у дні Кастрычніка, заваёўваючы новае жыццё, і хто адстаяў яго цаной уласнага жыцця ў дні фашысцкай навалы. У прыгожым скверы райцэнтра, у засені пышных дрэў, стаяць два помнікі: героям Рэвалюцыі і героям Айчыннай вайны. Жывыя кветкі растуць на гэтых магілах, не вянуць на абеліскаў вянкі, сплеценыя дзіцячымі і жаночымі рукамі...



Неўміручая слава.

## БУДНІ АДНАГО РАЁНА



Жывёлагадоўчы гарадок у вёсцы Гара.

...Некалі, над свежымі магіламі сваіх баявых сяброў, партызаны кляліся:

— Мы, каму суджана будзе ўбачыць мір, здзейснім мары, за якія вы аддалі сваё жыццё! Мы

Загоім раны, адбудуем
Свае сядзібы зруйнаваны,
Сваю краіну маладую
Святлом асвецім нечуваным.
Зірнуць зноў нашы ў высь палацы,
Святочна прыбяруцца людзі,
Як красаваўся, красавацца
Чырвоны сцяг над намі будзе!

Абгарэлыя коміны засталіся на месцы соцень вёсак раёна пасля вайны. Вецер гуляў над бур'янамі, што параслі на месцы калгасных сядзіб. Ні трактара, ні камбайна, ні сеялкі. Нават коней і кароў можна было злічыць па пальцах адной рукі.

А сёння? Зірніце: гэта — вёска Гара, яе новы жывёлагадоўчы гарадок. Такіх пабудоў мясцовы калгас не меў і да вайны. Тыповыя кароўнікі, канюшні і свінарнікі з цэглы, шыферу і шкла, воданапорная вежа, машыны. У хлявах — сотні пародзістых кароў і свіней. Кукурузны лес шуміць за фермай, чакае камбайна.

Святлом лямпачак Ільіча асвятлілі свае адбудаваныя сядзібы калгаснікі. На рацэ Лукамцы, на берагах якой некалі тужылі вербы ды маркотна шумелі лазнякі, вырас велічны будынак міжкалгаснай гэс. Дзень і ноч гудуць тут турбіны, гоняць па сталёвых жылах святло ў хаты і энергію для матораў.



У турбінным цэху Лукамскай гэс.

Другая электрастанцыя — Чырвоназорская цэц — збудавана побач з папяровай фабрыкай «Чырвоная Зорка». Яе турбіны далі святло райцэнтру, рабочым пасёлкам фабрыкі і спіртзавода, калгасам Альшанскага сельсавета.

Сёння на палях калгасаў і саўгасаў раёна працуюць сотні трактараў, камбайнаў і складаных малатарань самых навейшых канструкцый. Тэхніка прыйшла на фермы, у свірны, на калгасныя гумны.

...Не шкадуючы жыцця, адстайвалі сваю зямлю людзі Чашніччыны ў дні вайны. Сёння, у дні міру, яны, не шкадуючы сіл, працуюць на гэтай зямлі. У раёне выраслі сапраўдныя майстры высокіх ураджаяў, знатныя жывёлаводы.

Вось яны, знатныя людзі Чашніччыны. Мы ўзялі з блакнота мастака толькі тры партрэты. У сапраўднасці ж людзей, якія сваёй працай славяць раён, не злічыць.

Заслужаным аўтарытэтам карыстаюцца ў раёне жывёлаводы калгасаў імя Жданава і імя Чапаева.

Даяркі Вольга Пясецкая і Марыя Палітанава — перадавыя ў калгасе імя Жданава і ў раёне. Выдатных поспехаў дабіліся даяркі і свінаркі калгаса імя Чапаева. Гэта дзякуючы іх самааддалай працы калгас заняў па надоях малака першае месца ў раёне і першым выканаў план здачы дзяржаве прадуктаў жывёлагадоўлі. Нядаўна калгасу прысуджан пераходны Чырвоны Сцяг райкома і райвыканкома.





Стваральнікі багацця

# Пейзажы роднай прыроды

На выстаўцы твораў М. Даўгялы, прысвечанай яго 50-годдзю, — больш 120 палотнаў жывапісу. Пераважная колькасць экспанатаў адлюстроўвае беларускі пейзаж. Галоўнае ў экспазіцыі — цудоўныя краявіды: урачыстыя і суровыя, лірычныя і жыццярадасныя.

Акрамя пейзажаў, мастаку ўдаюцца і сюжэтна-тэматычныя карціны аб гераічнай працы савецкіх людзей — пакаральнікаў прыроды. Прыцягваюць асаблівую ўвагу некалькі тэматычных кампазіцый на калгасную тэму: «Малацьба ў калгасе», «Уборка сена», «Торфараспрацоўкі», «Веснавая сяўба» і іншыя.

У творах М. Даўгялы адчуваецца любоў да роднага краю. Мы заўважаем гэта, у прыватнасці, у лагойскіх эцюдах і карцінах. Лепшыя са сваіх карцін ён стварыў на матэрыяле эцюдаў, напісаных у гэтым раёне.

Перад намі карціна «Уборка сена». Прыгожая мясцовасць з узгоркамі, выразны сілуэт маладога лесу, а каля яго калгаснікі ўбіраюць сена, кладуць яго ў копы, стагі. Маленькія постаці людзей не губляюцца на агульным фоне вялікіх стагоў сена, лесу, а даюць жыццё ўсяму твору і падкрэсліваюць яго ўнутраны пафас. Верыш у тое, што гэтыя людзі сапраўдныя гаспадары сваёй зямлі. Рамантычны, прыўзняты настрой, багатая каляровая гама карціны і трапна знойдзеныя маштабы яе кампанентаў складаюць адчуванне закончанасці.

І ў кампазіцыі «Торфараспрацоўкі» звычайная будзённая тэма набыла выразнае мастацкае гучанне.

Сярод удалых тэматычных карцін на выстаўцы — «Малацьба ў калгасе». Гэты паэтычны твор славіць працу калгаснікаў. З добрым густам мастак перадаў ігру сонечнага святла на малатарні, снапах і саломе на фоне цёмнага маладога лесу. Мастацкія сродкі аўтара скупыя, без дэталізацыі, карціна нагадвае прыгожую дэкаратыўную панараму.

М. Даўгяла ў сваіх творах адлюстроўвае прыроду роднай Беларусі і ператварэнне яе савецкім чалавекам. Мастак любіць заставацца адзін на адзін з прыродай, прыслухоўвацца да патаемнага шэпту лісця, траў, калосся, сачыць за фантастычным малюнкам воблакаў. Так, відаць, і нарадзіўся лірычны пейзаж «Перад навальніцай».

Прыемнае ўражанне робяць кампазіцыі «Пачатак вясны», «Лагойскія далі», «Зіма», «Калгасны двор».

Шкада, што мастак, жывучы ў Мінску, мала аддае ўвагі ў сваёй творчасці гораду. «Мінск будуецца» і «Стары Мінск» — гэта ўсё, што ёсць на выстаўцы аб нашай сталіцы.

М. Даўгяла паспрабаваў свае сілы і ў партрэтным жанры. Яго «Дзяўчына з кветкамі» на фоне пейзажу — спроба досыць удалая. Мажорны тон фарбаў адпавядае зместу партрэта маладой прыгожай дзяўчыны. Але калі прыгледзішся больш уважліва, заўважаеш, што аўтар партрэта пераходзіць ад сапраўднай прыгажосці і паэтычнасці да дэкаратыўнасці.

Хочацца пажадаць мастаку яшчэ глыбей адлюстроўваць у сваёй творчасці нашу цудоўную сацыялістычную рэчаіснасць і прыгожыя краявіды роднай Савецкай Беларусі.

**Ул. САКАЛОЎ,**
**мастак.**

## УДАРНІКІ КАМУНІСТЫЧНАЙ ПРАЦЫ

Івацэвіцкі райком прафсаюза работнікаў культуры прысвоіў групе перадавых кінамеханікаў ганаровае званне ўдарнікаў камуністычнай працы.

У пачатку гэтага года кінамеханікі і матарысты раёна звярнуліся да таварышаў па прафесіі ўсёй вобласці з заклікам датэрмінова да дня адкрыцця XXII з'езда КПСС, выканаць гадавы план, палепшыць абслугоўванне сельскага насельніцтва, шырока разгарнуць прапаганду сельскагаспадарчых фільмаў. Слова ў іх не разыходзіцца са справай. Кожны трэці кінамеханік раёна ўжо рапартаваў аб датэрміновым выкананні гадавога вытворчага плана. Палепшана рэкламаванне і якасць паказу фільмаў, строга захоўваюцца графікі і маршруты перасовак.

Работай кінамеханікаў кіруе створаны на грамадскіх асновах раённы савет. Яго старшынёй з'яўляецца ўдарнік камуністычнай працы кінамеханік К. Лапчук. Па ініцыятыве савета абсталявана перасоўка дзённай праекцыі для дэманстравання сельскагаспадарчых і навукова-папулярных фільмаў у брыгадах, у полі, на фермах. Ва ўсіх населеных пунктах, дзе дэманструюцца фільмы, створаны куткі кінагледачоў. Тут аформлены маляўнічыя вітрыны, вывешаны графікі дэманстравання фільмаў. Праводзяцца канферэнцыі, прысвечаныя абмеркаванню мастацкіх, сельскагаспадарчых і навукова-папулярных фільмаў.

## НА ЛІТОЎСКАЙ МОВЕ

**Упершыню на літоўскай мове выдадзен зборнік выбраных твораў беларускага паэта Максіма Танка «След бліскавіцы». Зборнік складаецца з васьмі раздзелаў. Пераклалі творы Максіма Танка вядомыя паэты Савецкай Літвы А. Венцлава, Э. Межалайціс, В. Мазурунас, Э. Матузявічус, Ю. Марцінкевічус, а таксама літоўскія паэты малодшага пакалення А. Балтакіс, Я. Дзегуціце і іншыя. Кніга адкрываецца вялікім уступным артыкулам пісьменніка Антанаса Венцлавы, прысвечаным жыццю і творчасці таленавітага паэта братняй Беларусі. Тыраж зборніка 6 000 экземпляраў.**

**Ш. ЛІРАВА,**
**бібліёграф-рэдактар кніжнай палаты Літоўскай ССР.**

## ЦІКАВЫЯ ЭКСПАНАТЫ

Гісторыка-археалагічны музей Белдзяржуніверсітэта быў заснаваны ў 1939 г. вядомым беларускім вучоным акадэмікам М. М. Нікольскім. Пасля Вялікай Айчыннай вайны музей быў адноўлены і з таго часу рэгулярна папаўняецца новымі экспанатамі. Сярод іх копіі вядомых работ майстроў антычнага мастацтва: Афрадзіта Мілоская, Апалон Бельведэрскі, дыскабол і інш.

У музеі наладжваюцца практычныя заняткі студэнтаў, працуюць гістарычныя гурткі, яго наведваюць шматлікія экскурсіі школьнікаў. Тут тры аддзелы: старажытны перыяд гісторыі Беларусі і горада Мінска, старажытны Усход, антычнасць, аддзяленне нумізматыкі. У бліжэйшы час адкрыецца новы аддзел—этнаграфія Беларусі.

Студэнты гістарычнага факультэта пад кіраўніцтвам дацэнта універсітэта Ф. Нячая пабывалі ў археалагічнай экспедыцыі ў Херсанесе Таўрычаскім. Такая ж экспедыцыя была наладжана ў вёску Юдзінава Бранскай вобласці, адкуль студэнты прывезлі косці мамантa, старажытныя прылады вытворчасці і інш.

Музей падтрымлівае цесную сувязь з Дзяржаўным Эрмітажам. Нядаўна з Эрмітажа былі прысланы каштоўныя экспанаты-арыгіналы антычнага перыяду.



НА ЗДЫМКУ: наведвальнікі музея аглядаюць старажытны посуд.

Фота С. Чырэшкіна.

# З ВЫСОКАЙ ТРЫБУНЫ

(Працяг. Пачатак на 1-й стар.)

называе яго кансерватарам? Як ён ставіцца да ідэі стварэння брыгады камуністычнай працы? Чаму ён такі абыякавы да балбатні Серафімы на рэлігійныя тэмы?

Загадкай застаецца ў гэтым спектаклі і вобраз дачкі Родзіна—Алачкі (М. Квашніна). Гледачу зусім не ясная яе біяграфія, мы не разумеем, чаго хоча Алачка, да чаго імкнецца і чаму яна так пазбягае камсамольца Міколы, які кахае яе і жадае ёй дабра.

Вядома, пры дапамозе фантазіі неяк можна вытлумачыць паводзіны Родзіна і Алачкі і прыйсці да вываду, што ў жыцці бываюць і такія людзі. Аднак для мастацкай паўнацэннасці гэтым вобразам вельмі многага не хапае. Магчыма, тут галоўная прычына тоіцца ў самой п'есе. Але гледачу ад гэтага не лягчэй.

У п'есе «Лявоніха на арбіце» вялікую сэнсавую нагрузку нясе вобраз Міхася — ініцыятара барацьбы за новае ў працоўным жыцці калгаснікаў. Нягледзячы на тое, што гэтая роля выпісана некалькі сухавата, яна дае магчымасць для стварэння вобраза энергічнага, напорыстага, мэтаімкнёнага, заклапочанага лёсам калгаса, чалавека, які робіць усё для сапраўднага дабрабыту людзей. Аднак, у спектаклі Гомельскага тэатра роля Міхася ў выкананні маладога акцёра А. Дударава не заняла належнага месца. І тут, думаецца, справа не столькі ў самім акцёры, колькі ў тым, што рэжысёр не знайшоў для гэтага вобраза неабходнага месца. Апроч таго, астатнія ўдзельнікі спектакля дрэнна дапамагаюць Дудараву іграць ролю таго Міхася, якога мы чакалі ўбачыць.

У п'есе «Дзеля сваіх бліжніх» ёсць цікавы вобраз раённага ўпаўнаважанага па нарыхтоўках Грэчкіна. Грэчкін прыязджае ў калгас з заданнем паскорыць тэмпы хлебанарыхтовак. Не лічачыся ні з чым, наперакор усяму, абы выканаць распараджэнне раённага начальства, ён настойвае на сваім, нават патрабуе здачы насеннага фонду. Аднак, унікнуўшы глыбей у сутнасць справы, пазнаёміўшыся з мясцовымі ўмовамі, Грэчкін зразумеў, што такія метады кіраўніцтва могуць толькі прынесці шкоду. І ён дае магчымасць калгасу знайсці больш плённыя шляхі для выканання сваіх абавязацельстваў перад дзяржавай. Грэчкін — тыповы вобраз такіх кіраўнікоў на вёсцы, якія пад уплывам новага жыцця пераадольваюць у сабе інертнасць, становяцца актыўнымі і разумнымі работнікамі. Але ў спектаклі Гродзенскага тэатра вобраз Грэчкіна (А. Цароў) пазбаўлены гэтай мэтанакіраванасці. Вельмі схематычна, непераканальна паказаны пералом, што адбываецца ў душы гэтага чалавека пад уплывам новага ў жыцці калгаснай вёскі. А паколькі гэта так, значыць, траціцца сэнс вобраза ў спектаклі.

Такія з'явы можна назіраць і ў рабоце тэатраў над класічным рэпертуарам. Здавалася б, што вобраз Кручынінай, які мноства разоў ствараўся на сцэнах тэатраў і ў дарэвалюцыйны і ў савецкі час, дастаткова ясны. Кручыніна — маці, актрыса і чалавек з вялікай літары. У спектаклі ж Гродзенскага тэатра ў выкананні артысткі М. Паповай мы ўбачылі замест гэтай Кручынінай вобраз жанчыны, якая паддобрываецца, прыстасоўваецца да ўсіх, нібы просіць ва ўсіх прабачэння, а вялікае гора маці паказана дробнай драмай.

Усе гэтыя прыклады гавораць аб тым, што нашы рэжысёры і акцёры далёка не заўсёды дамагаюцца дакладнасці ў выяўленні аўтарскай або сваёй задумы. І справа тут не толькі ў таленавітасці рэжысёра і акцёра. Спектакль у цэлым і вобраз героя могуць быць створаны больш або менш таленавіта, з большым або меншым майстэрствам. Гэта залежыць ад ступені таленту мастака. І тут якія-небудзь папрокі і прэтэнзіі трацяць свой сэнс. Аднак зусім абавязкова для кожнага рэжысёра і акцёра, узброенага метадам сацыялістычнага рэалізму — правільна, дакладна разумець п'есу, і вобраз, і сваю задачу ў іх увасабленні.

## ЖАНР І СТЫЛЬ — У АДЗІНСТВЕ

Ці трэба гаварыць, што для ідэйна-мастацкага поспеху спектакля вялікае значэнне мае правільнае разуменне стылю і жанра твора? Якім ключом «адкрыць» твор, якімі сцэнічнымі сродкамі найбольш правільна і даходліва раскрыць яго змест? Нярэдка бывае, што намаганні рэжысёраў і акцёраў, накіраваныя да высакароднай мэты, не дасягаюць яе, таму што шляхі дасягнення гэтай мэты выбіраюцца няправільныя.

Рэжысёр па-свойму ўбачыў, па-свойму прачытаў тую ці іншую п'есу і вырашыў увасобіць яе ў плане свайго бачання. Добра, калі гэтае «бачанне» правільнае, а калі не... Вось так і адбылося са спектаклем «Кветкі жывыя» ў Гомельскім тэатры. Гэты спектакль прайшоў складаны працэс свайго нараджэння. Спачатку яго паставіў рэжысёр Я. Батурын, потым ён быў перапрацаваны рэжысёрам М. Астравідавым. Цяпер цяжка меркаваць аб тым, што зрабіў кожны з гэтых рэжысёраў. Але зусім ясна адно: п'еса раскрыта няправільна. Недахопы яе паглыблены рэжысёрскай трактоўкаю. П'еса «Кветкі жывыя», якая расказвае аб перадавых людзях нашага часу, патрабуе не толькі лаканічных, але і яркіх, смелых прыёмаў і фарбаў ва ўвасабленні вобразаў, узаемаадносін герояў. Тут хацелася б убачыць выразныя, моцныя характары людзей, якія заяўляюць аб сабе, аб сваіх імкненнях на поўны голас. Аднак у спектаклі члены брыгады камуністычнай працы вельмі многа заняты самааналізам, іх пачуцці нібы прыглушаны, загнаны ў глыбіню (асабліва гэта характэрна для вобраза кіраўніка брыгады Мікалая, створанага Р. Суворавым). Рытм жыцця гэтых людзей затарможаны, прыглушаны, іх быццё здаецца сумным і шэрым. Відавочна, што п'есу «Кветкі жывыя» нельга правільна раскрыць, не бачачы ў яе падзеях рысаў гераічнага рамантызму. А рамантызм патрабуе адпаведных унутраных і вонкавых выразных сродкаў.

Або возьмем спектакль «Тапаз» у Гродзенскім тэатры. П'еса Паньоля дае ўсе падставы для трактоўкі яе як сатырычнага твора. Іменна так яна павінна быць раскрыта. У спектаклі ёсць сатырычная лінія, але яна праведзена так невыразна і няўпэўнена, што часам губляешся і не разумееш, які ж гэта твор: драма ці камедыя, трагікамедыя ці сатырычная камедыя. У спектаклі ёсць усе гэтыя элементы, але няма галоўнай лініі, якая вызначае жанр спектакля.

Відаць, жанравая недакладнасць паклала адбітак і на цэнтральны вобраз спектакля. Акцёр Г. Корн, імкнучыся падкрэсліць пералом у свядомасці Тапаза, так захапляецца, што ў апошнім акце глядач зусім не пазнае ў Тапазе-дзялку былога Тапаза-настаўніка. Не застаецца ніводнай прыкметнай ніці ні ў вонкавым абліччы, ні ва ўнутраным, якая б звязвала двух Тапазаў. Зразумела, такое раскрыццё вобраза парушае яго цэльнасць.

Па стылю вельмі няроўны і спектакль «Зімовая казка» ў Гомельскім тэатры. У першым акце мы ўбачылі амаль сапраўднага Шэкспіра. Яркія, моцныя характары, глыбокія пачуцці, галоўнае—рэалістычнае іх увасабленне, без чаго Шэкспір перастае быць Шэкспірам. А далей гэтая таленавітасць, правільна знойдзеныя рысы пачалі бляднець і знікаць. Наступныя падзеі раскрываюцца так, што мы пачынаем траціць веру ў іх праўдзівасць. Героі і іх узаемаадносіны з жывых і рэальных паступова ператвараюцца ў казачныя. Прадстаўнікі простага народа, сяляне выглядаюць пейзанамі, а каралі і прыдворныя — ідэалізаванымі героямі. Асабліва казачная, пазбаўленая ўсялякага жыццёвага падабенства, маладая пара — прынц Фларызель (А. Дудараў) і прынцэса Утрата (М. Квашніна). Відаць, рэжысёр Л Эльстон успрыняў большую частку п'есы «Зімовая казка», як казку. А між тым п'еса ад пачатку да канца дае ўсе падставы для яе рэалістычнага вытлумачэння, бо за быццам бы казачнымі сітуацыямі тояцца жыццёвыя, рэальныя. Асабліва важныя ў гэтых адносінах народныя сцэны, у якіх выказаны дэмакратычныя імкненні вялікага драматурга.

Стылявы разнабой ёсць і ў спектаклі «Лявоніха на арбіце» (рэжысёр Л. Эльстон). Тут рэалістычна-бытавыя сцэны першых дзвюх карцін нібы ўступаюць у супярэчнасць з вырашэннем другога акта. Ужо афармленне другога акта наводзіць на гэту думку. Вялізны, да самай столі сейф з замочнай адтулінай неверагодных памераў, вялізныя папкі «спраў», «указаў», «загадаў», «пастаноў» і «распараджэнняў» красуюцца ў зашклёнай шафе. Нарэшце, востра гратэскавае выкананне акцёрам Ф. Івановым ролі Цесакова — памочніка старшыні райвыканкома — усё гэта рэзка кантрастуе не толькі з усім тым, што мы ўжо да гэтага бачылі ў спектаклі, але і з вобразам самога Глуздакова, ролю якога акцёр Н. Маліноўскі выконвае мякка, жыццёва і праўдзіва.

З усіх спектакляў двух тэатраў найбольш цікавымі па стылю нам уяўляюцца «Востраў Афрадзіты» ў Гомельскім тэатры і «Тры таварышы» ў Гродзенскім тэатры.

Спектакль «Востраў Афрадзіты» (рэжысёр Б. Рошчын) ясны па думцы, па сваёй ідэйнай мэтанакіраванасці, па мастацкаму почырку. Тут відаць моцная рэжысёрская рука, якая вядзе кожнага героя п'есы да сваёй мэты. Персанажы жывуць і дзейнічаюць у адзінай атмасферы. Вядома, і ў гэтым спектаклі далёка не ўсе артысты аднолькава пераканальныя ў сваіх ролях. Але затое яны добра разумеюць адзін аднаго.

Прыкладна тое ж самае можна сказаць і пра спектакль «Тры таварышы» (рэжысёр І. Папоў). Варта толькі дадаць, што гэты спектакль мае стылявое адзінства.

Важнае значэнне для адзінства стылю часам маюць ролі вядучых. Прыгадаем такую ролю ў пастаноўцы МХАТ'а «Уваскрэсенне». Там вобраз «ад аўтара», створаны В. Качалавым, ператварыўся ў ключавы для вытлумачэння ўсяго твора. У апошнія гады ў нашых тэатрах прыкметна празмернае захапленне ролямі «ад аўтара» або вядучых. Але вельмі часта яны проста не да рэчы. Такі лёс іх у спектаклях «Лявоніха на арбіце» і «Угрум-рака». У першым выпадку вядучы перад кожнай карцінай добрасумленна дакладвае гледачам аўтарскія рэмаркі, прызначаныя для рэжысёра, мастака і акцёра. У другім — чытае нейкія выпадковыя месцы з рамана В. Шышкова, якія нічога не даюць да падзей. А між тым, ужо калі ўводзіць вядучага ў спектакль «Угрум-рака», дык яго тэкст варта было б дапоўніць сацыяльнымі матывамі, якія, на жаль, найбольш слаба раскрыты ў спектаклі.

**(Заканчэнне ў наступным нумары).**




# ПАПУЛЯРНА — НЕ АЗНАЧАЕ СПРОШЧАНА

У гады Вялікай Айчыннай вайны беларускі народ паказаў выдатныя прыклады мужнасці і стойкасці ў барацьбе супраць фашысцкіх захопнікаў. У глыбокім тыле ворага на часова акупіраванай тэрыторыі нашай рэспублікі з вялікай сілай разгарнуўся ўсенародны партызанскі рух. Масавы патрыятызм савецкіх людзей знайшоў адлюстраванне як у беларускай літаратуры, так і ў мастацтве.

Партызанская тэматыка займае вялікае месца ў творчасці нашых кампазітараў. Гераічныя справы і вобразы народных мсціўцаў Беларусі ўвасоблены ў операх, сімфоніях, кантатах, у шматлікіх харавых і сольных песнях. Оперы «У пушчах Палесся» А. Багатырова, «Андрэй Касценя» М. Аладава, «Дзяўчына з Палесся» Я. Цікоцкага, «Марынка» Р. Пукста, сімфанічная паэма «Партызанская быль» Ул. Алоўнікава, кантата «Памяці Канстанціна Заслонава» Ю. Семянякі — усе гэтыя творы, як і рад іншых, тэматычна звязаныя паміж сабой. Яны адлюстроўваюць гераічныя падзеі мінулай вайны, паказваюць, як наш народ выйшаў пераможцам у грознай бітве з фашызмам.

Музыказнаўца А. Ракава ў сваёй брашуры «Тэма партызанскай барацьбы ў творчасці беларускіх кампазітараў» паспрабавала падагуліць напісанае ў беларускай музыцы пра народных мсціўцаў. Трэба адразу сказаць, што гэта тэма буйнай музычна-даследчай працы і наўрад ці ўкладваецца ў рамкі брашуры ў паўтара друкаваных аркуша. Аднак А. Ракава, узяўшыся за яе напісанне, відаць, прытрымлівалася іншай мэты: пазнаёміць з музычнымі творамі на партызанскую тэму шырокія колы аматараў мастацтва, даць сціслы і агульнадаступны матэрыял слухачам універсітэтаў культуры.

Прачытаўшы брашуру, сапраўды пераконваешся, што яна разлічана на масавага чытача. Матэрыял у асноўным выкладзены папулярна, аўтар па магчымасці стараецца абыходзіцца без складанай музычнай тэрміналогіі пры характарыстыцы твораў розных жанраў. Найбольш пераканальна гаворыцца ў брашуры пра оперу Я. Цікоцкага «Дзяўчына з Палесся». Як вядома, гэта вялікае музычнае палатно мела некалькі рэдакцый, кампазітар неаднаразова перапрацоўваў яго, нанава пісаў цэлыя карціны і эпізоды. А. Ракава не толькі расказвае аб гісторыі ўзнікнення і напісання «Дзяўчыны з Палесся», але і даволі падрабязна спыняецца на характарыстыцы вобразаў галоўных дзеючых асоб і масавых народных сцэн, паказвае, якое месца яны займаюць у оперы.

Менш выразна і не так поўна разгледжаны іншыя беларускія оперы—«Андрэй Касценя» М. Аладава, «Марынка» Р. Пукста, «У пушчах Палесся» А. Багатырова. Далей звычайнага пераказу зместу аўтар тут не ідзе. Калі ж іншы раз аналізуе структуру музычных вобразаў і тэм, дык робіць гэта мімаходзь, скорагаворкаю. Гаворачы, напрыклад, пра оперу «У пушчах Палесся», аўтар у адным месцы піша: «Вялікая масавая сцэна ёсць у трэцяй дзеі оперы. У ёй паказана, як атрад партызан, на чале якога стаіць стары Тарас, усё папаўняецца і папаўняецца новымі сіламі. Партызаны ярка ахарактарызаваны ў хоры «Гэй, у лесе, лесе, шумным, цёмным». Або: «Кузьміч і Андрэй ахарактарызаваны ў оперы ў большай ступені з лірычнага боку, чым з гераічнага».

Такія агульныя разважанні замест сапраўднага музычнага разгляду опернага твора мала што даюць чытачам. Чаму, напрыклад, у арыях бальшавіка-падпольшчыка Кузьміча і батрака Андрэя пераважаюць лірычныя інтанацыі, у той час як па ідэі оперы гэтым вобразам павінны быць уласцівыя гераічныя, валявыя рысы? Брашура на гэта не дае адказу.

Таксама схематычна сказана і пра іншыя оперы, кантаты, сімфанічныя творы.

Агульнадаступная манера выкладання не павінна зводзіцца да анатацыйнасці. А такі недахоп уласцівы брашуры. Там, дзе гаворка ідзе пра кантаты «Беларускім партызанам», «Памяці Канстанціна Заслонава», сімфанічную паэму «Партызанская быль», аўтар не ўзнімаецца вышэй «анатацыйнага» агляду твораў. Упамінанне ўсіх частак і раздзелаў і кароткае апісанне таго, што яны выказваюць у вакальна-сімфанічным творы, — яшчэ не азначае музычнага аналізу. Прааналізаваць—значыць, даць нейкую ацэнку твору, указаць на яго дадатныя бакі і недахопы і паспрабаваць высветліць, што каштоўнага даў ён для развіцця беларускай музыкі. А. Ракава толькі канстатуе факты, але сваіх адносін да іх не выказвае.

На наш погляд, трэба было падумаць і над самой кампазіцыйнай пабудовай брашуры. Выкладанне матэрыялаў у храналагічным парадку, у залежнасці ад часу ўзнікнення музычных твораў на партызанскую тэму, пачынаючы з 30-х гадоў, калі былі напісаны «Песня дукорскіх партызан» І. Любана на словы П. Броўкі і опера «У пушчах Палесся», — не новы, шмат разоў паўтораны прыём. Ён толькі звязвае рукі даследчыку і не дае магчымасці для глыбокіх абагульненняў і вывадаў. Куды больш цікава было б, каб аўтар не разглядаў кожны твор паасобку, а паспрабаваў бы іх параўнаць і супаставіць паміж сабою, паказаць, чым адрозніваецца кантата А. Багатырова ад кантаты Ю. Семянякі па музычнай мове і меладычных якасцях; які стыль «пісьма» ў М. Аладава, Я. Цікоцкага і Ул. Алоўнікава. Гэта можна было зрабіць на некалькіх яркіх прыкладах не толькі пры разглядзе буйных музычных твораў, але і малых песенных форм.

Што датычыць раздзела аб партызанскіх песнях, створаных беларускімі кампазітарамі, дык ён наогул носіць ілюстрацыйны характар: «Слаўнаму Дню перамогі прысвячае кампазітар В. Яфімаў песню на словы А. Астрэйкі «Вялікі дзень»; «Вобраз любімага партызанскага героя ўслаўлен і ў «Песні пра Заслонава» Д. Лукаса на словы М. Машары»; «На той жа тэкст М. Танка (маецца на ўвазе верш «Партызанскія акопы» — **Г. З.**) вельмі выразны хор напісаў Ул. Алоўнікаў» і г. д. Пералічэнне назваў замест канкрэтнай творчай размовы.

А чаму нельга было аб'яднаць вакальныя і харавыя творы па іх жанравых адзнаках (песня-гімн, песня — гераічны партрэт, паходная і страявая песня)? Тады аўтар, напэўна, магла б растлумачыць, дзякуючы чаму, скажам, «Песня пра Заслонава» Ул. Алоўнікава стала такой папулярнай у народзе, а песня Д. Лукаса пра таго ж партызанскага героя не дайшла да сэрца.

Беларускім музыказнаўцам і музычным крытыкам трэба, нарэшце, перайсці да стварэння грунтоўных работ па беларускай музыцы, таму што адны брашуры не могуць ахапіць усяго багацця музычнага матэрыялу.

**Г. ЗАГАРОДНІ.**

---

А. Ракава. «Тэма партызанскай барацьбы ў творчасці беларускіх кампазітараў». Дзяржвыдавецтва БССР. Мінск, 1961.

# МАЙСТАР ГРАФІКІ

У гісторыі выяўленчага мастацтва нашай рэспублікі абставіны склаліся неяк так, што станковая графіка пэўны час была «не ў пашане» сярод мастакоў. Але А. Тычына застаецца верны ёй праз дзесяцігоддзі. Сёння, праўда, у станковую графіку ідуць маладыя, свежыя сілы. Моладзь смела эксперыментуе, шукае новых сродкаў выразнасці.

У параўнанні з творамі моладзі мастацтва А. Тычыны можа здацца на першы погляд сціплым, яно не кідаецца ў вочы. Але гэта толькі на першы погляд. Высакародны, строгі стыль работ А. Тычыны, адзначаных яго ўласным «почыркам», выявіўся не толькі ў яго любімых і самых блізкіх яму па натуры каляровай лінагравюры, экслібрысе, кніжнай ілюстрацыі, але і ў работах алоўкам, акварэллю, тушшу, пастэллю, маслам, гуашшу.

Творы А. Тычыны прасякнуты праўдай. Яны цікава расказваюць пра мінулае і сённяшняе Беларусі, пра людзей савецкай культуры.

Цяпер, калі выйшаў у свет манаграфічны нарыс П. Герасімовіча пра жыццё і творчасць А. Тычыны, у значнай меры стала магчымым кінуць рэтраспектыўны погляд на ўвесь творчы шлях мастака. Стала відавочна, як многа зрабіў аддані любімай справе майстар станковай графікі.

Лаканічна пададзены ў нарысе біяграфічныя звесткі. За скупымі радкамі выразна паўстае фігура нястомнага працаўніка. З дзяцінства захоплены маляваннем юнак... Старанны капііст класікаў... Тэатральны дэкаратар, кніжны ілюстратар, падарожнік з блакнотам, алоўкам і фарбамі па нашай рэспубліцы... Вялікі аматар мастацкай літаратуры, заўзяты калекцыянер... Педагог...

Аналізуючы работы мастака, П. Герасімовіч імкнецца пазбягаць просталінейнага пераказу зместу таго ці іншага ліста, малюнка, экслібрыса. Гаворачы пра тыя ці іншыя пераломныя вехі ў гісторыі мастацтва рэспублікі, якія мелі прынцыповае значэнне і для мастака, аўтар унікае агульшчыны, трафарэту. Аб'ём нарыса не дазволіў яму разгарнуць свае лаканічныя характарыстыкі, але яны даюць чытачу правільны напрамак да самастойных разважанняў.

Гэтага нельга сказаць хіба толькі пра аналіз паасобных серый пасляваенных работ мастака. Некаторыя з іх ахарактарызаваны менш трапна, занадта агульна.

Даволі вялікая колькасць ілюстрацый дапаўняе ўяўленне пра творчасць А. Тычыны.

З улюбёным у беларускую прыроду, у родны Мінск мастаком сябруюць дзве музы — «муза Мінска» і «муза дальніх вандраванняў». Мінску А. Тычына прысвяціў серыю лістоў. Гэта «паэма ў графіцы», прасякнутая лірызмам, адзінствам пачуцця. Работы, прысвечаныя рачному транспарту Беларусі («Рамонт рудавоза», «У Брэсцкім порце», «У затоцы»), поўныя рамантычных матываў.

Мастацтва А. Тычыны — прыгожае, натхнёнае. У лепшых сваіх творах ён усхвалявана апявае нашу сучаснасць. Карыстаючыся тэрмінамі літаратуразнаўства, можна сказаць, што ён «нешматслоўны», але кожнае яго «слова» нясе значную нагрузку.

Кніга «Анатоль Тычына», выдадзеная Белдзяржвыдавецтвам, з густам аформлена і добра надрукавана. Такую кнігу прыемна браць у рукі.

**Ул. БРЫГ.**

